Янка Купала

# АРЛЯНЯТАМ

Вершы для дзяцей



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
Рэдакцыя дзіцячай літаратуры
МІНСК 1945



# МОЙ КРАЙ

Цвіці-ж, каласуйся, мой край,
Ці сонейка захад, ці ўсход!
Аб Сталіне песні спявай,
Спявай, беларускі народ!

Дзе вечная пустка была,
Там горад паўстаў і расце.
А стужкай чыгунка лягла,
Дзе ўчора стаяў лес яшчэ.

Шасцяць у калоссі сярпы,
Сцяною дабро залягло,
Кладуцца снапы у снапы,—
Такога жніва не было.

Звініць песня ў полі, звініць,
Уторыць сярпу і касе,
Бурліцца вадзіца з крыніц,
Купаецца сонца ў расе.

Цвіці-ж, каласуйся, мой край,
Ці сонейка захад, ці ўсход!
Аб Сталіне песні спявай,
Спявай, беларускі народ!

## КАЛЫХАНКА

Спі, мой маленькі сыночак,
Спі, мая дзетка, засні,
Многа з табою мы ночак
Спаць не заснулі ані.

Спі, мой сыночак, мой родны,
Будзеш расці ў новы час!
Чуеш, як ветрык свабодны
Шчасцейкам вее на нас.

Спі, мой сыночак! Лёс горкі
Больш не кране ў барацьбе.
Зоркі, крэмлёўскія зоркі,
Будуць свяціці табе.

Жудкіх не зведаеш ночак,
Блукаць не будзеш нідзе.
Долю тваю, мой сыночак,
Сталін да сонца ўзвядзе.



# СЛАВУТЫ ДОМІК

Вецер свабодны гуляе па скалах,
Скалы абнялі арлы, арляняты.
Домік у Горах абвеяны хваляй,
Домік — не домік, — бядняцкая хата.

Той, хто з няволі рабочы люд вывеў,
Новыя вызначыў свету скрыжалі,
Той, хто народ абудзіў, ашчаслівіў,
Ў доміку гэтым убачыў свет Сталін.

# АРЛЯНЯТАМ

Вам на памяць Серп і Молат
Даравала доля,
Каб з вас кожны быў, як волат,
Не гнуў плеч ніколі.

Каб здабытую свабоду
Знaлі, шанавалі
І у цяжкую прыгоду
Ўсталі грознай хваляй.

Зашумелі, загудзелі,
Як віхор сусветны,
Не праспалі у пасцелі
Волі агняцветнай.

Вам дасталіся ад продкаў
Сохі і бароны,
Каб вы ў час, пасля паводкаў,
Вышлі на загоны.

І з'аралі сваю ніву
Шырока, глыбока.
Зерне ўкінулі шчасліва,
Чыстае, як вока.

Вам у спадчыне ад роду
Засталіся песні,
Каб быць вашай асалодай
У жыцця прадвесні.

Каб вы пелі, не сціхалі
Ў радасці і ў горы,
Гаманілі, нібы хвалі
У бурлівым моры.



# ХЛОПЧЫК І ЛЁТЧЫК

— Мой мілы таварыш, мой лётчык,
Вазьмі ты з сабою мяне!
Я—ведай—вялікі ўжо хлопчык,
І ўмею ўжо лётаць у сне.

Мне мама сягоння казала,
Што стукнула мне ўжо сем год,
Табе гэта, можа, і мала,
А мне ляцець толькі ў палёт.

Мне ўжо надакучыла дома—
Ў дзіцячы хадзі адно сад.
А так паглядзеў-бы, вядома,
На іншы парадак і лад.

Вазьмі-ж мяне, лётчык, хачу я
Пабыць у людзях, паглядзець,
Як месяц на небе начуе,
Як блукае ў лесе мядзведзь.

Як свецяцца ночкаю зоры,
А днём не відаць іх чаму,
Як рэчкі ў далёкія моры
Улетку плывуць і ў зіму.

На моры зірнуць хоць раз вокам,
Як ходзяць па іх караблі,
Ляцеці далёка, высока
Ды так пабываць і ў Крэмлі.

І там з-пад нябеснае далі
Грымнуць громка ўсімі грудзьмі:
— Дзень добры, таварыш наш Сталін!
Паклон з самалёта прымі!

Вось гэтак у добрым здароўі
Мы будзем ляцець і ляцець.
Вазьмі-ж мяне, лётчык, з сабою,
Не будзеш ты клопату мець!

II

Мой мілы таварыш, мой лётчык,
Вазьмі мяне ўрэшце з сабой,
Цяпер не малы я ўжо хлопчык,
Сам-раз ляцець разам у бой.

Лічыць з табой будзем не зоры,
Галовы мы станем лічыць,
Галовы нямчур людажораў,
Што будзем смяротна глушыць.





Ты будзеш глядзець з самалёта,
А бомбы скідаць буду я,
І буду страляць з кулямёта
Ў сабачыя сэрцы звяр'я.

Мы гітлерцаў будзем ністожыць,
Гаціць імі топкую гаць,
З кутоў нашых родных, прыгожых
Грабежніцкі зброд выганяць.

Свайго самалёта днём, ночай
Не выпусцім, лётчык, мы з рук.
Берліну заглянем у вочы,
Ў крывавыя вочы гадзюк.

Так будзем лятаць з табой разам
Адважныя ўсюды ў баю,—
Фашысцкую смерціць заразу
За мамку й сястрычку маю.

Змяцём з беларускіх загонаў
Паганыя банды прыблуд,
Край вызвалім родны з палону,
Нямецкіх пазбавімся пут.

А вернемся стуль, дзе лmusталі,
Дзе ворагі трупам ляглі,
Спаткае таварыш наш Сталін
Прыветліва ў самым Крэмлі.

І скажа ён так мне з табою:
— „Пра вас я ўжо чуў многа раз,—
Вы—хлопчык і лётчык—герої,
Чакаюць вось ордэны вас“.



# БЕЛАРУСКІМ ПАРТЫЗАНАМ

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.

Клічу вас я на пабеду,
Хай вам шчасцем свецяць дні,
Выразайце людаедаў.
Каб не стала іх і следу
На святой нашай зямлі.



Няхай ваша перамога
Не кідае вас нідзе,
Не пужае хай трывога—
Ваша чыстая дарога
Да свабоды давядзе.

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.



# ГЭЙ, ПАЕХАЎ СЫН ДАНІЛА

Гэй, паехаў сын Даніла
Ваяваць на вайну,
Ад нападу, ад няволі
Бараніць старану.

Ехаў поле і другое,
Трэцце поле насціг,
Дзе сабраліся жаўнеры
З сёл і вёсак усіх.

І пайшлі яны паходам,
Дружна смела пайшлі,
Каб вон злыбяду прагнаці
З беларускай зямлі.

Добра ўсе там ваявалі,—
Уміралі ў баю.
А найлепш Даніла біўся
За краіну сваю.

І ручыла, шанцавала
Ў бітвах цяжкіх яму,
Ажна вораг напужаны
Дзівы ваўся таму.

Год мінуў, як ваяваці
Йшоў Даніла з сяла,
А ўжо слава па ўсім свеце
Аб ім громка ішла.



Як ачысцілі ваякі
Край ад ворага свой,
Важна ехалі дадому,
Як тых пчол буйных рой.

А паперадзе ўсіх едзе
Наш Даніла з вайны, —
Шабля бліскае пры боку,
Конь пад ім буланы.

*

— Дзе ты, хмелю, зімаваў,
Што не развіваўся?
Дзе ты, сынку, начаваў,
Што не разуваўся?

— Зімаваў я ў старане,
Дзе віхуры дзьмулі;
Начаваў я на вайне,
Дзе гуляюць кулі.

— Дзе-ж ты, хмелю, ўлетку цвёў,
Што засох без следу?
Дзе ты, сынку, дзень правёў,
Што і не абедаў?

— Цвёў я ўлетку, дзе пякуць
Спёкі агнявыя;
Дзень правёў я, дзе гудуць
Пушкі баявыя.

— Чаму-ж, хмелю, ні адну
Зносіў сцюжу, спеку?
Чаму, сынку, на вайну
Йшоў ты ў небяспеку?

— Доля кінула мяне
Згінуць,—не, не згіну:
Ваяваў я на вайне
За сваю айчыну.




## ДЗЕНЬ ДОБРЫ, МАСКВА!

Дзень добры, Масква, як вясна, маладая!
Дзень добры, крэмлёўскія зоры!
Мы песню табе, Масква наша, складаем,
А песня аб шчасці гавора.

Дзень добры, Масква, наша доля і воля!
З табою жыць радасна людзям.
Цябе не забудуць народы ніколі,
Як песні ніхто не забудзе.

## ПЕРАМОГА

Загоім раны, адбудуем
Свае сялібы зраўнаваны,
Сваю краіну маладую
Святлом асвецім нечуваным.

Зірнуць зноў нашы ў высь палацы,
Святочна прыбяруцца людзі,
Як красаваўся, красавацца
Чырвоны сцяг над намі будзе.

# БЕЛАРУСЬ

На магілах ваякаў,
Што ляглі за советы,
Ты, Рэспубліка, ўстала
І ўсяму свеціш свету.

Безаглядна, няспынна,
З маладняцкім разгонам
Думкі новыя й долю
Нясеш нашым загонам.

Зарунеюць палеткі
Рунню буйнай, сачыстай,
Людзі працу ўшануюць
Бяспрыгонна, ўрачыста.

А гудкі і жалейкі
Тваіх местаў і сёлаў
Запяюць аднազгодна,
Пераможна, вясёла.

І ніхто ўжо не зможа
Ані ў якой прыгодзе
Налажыць табе путы,
Беларускі народзе!

# МАЯ РАДЗІМА

Чуй, народ совецкі,
Чуй, мая радзіма!
Сваёй долі, волі,
Чуй, не аддадзім мы!

Будзеш векі жыці,
Зямелька Советаў,
На радасць, на шчасце
Працоўнаму свету.

Засяваць мы самі
Будзем нашы нівы,
Збіраць самі будзем
Ураджай шчаслівы.

Хай пад сонцам знаюць,
Чым мы сёння сталі!..
Мы падставім грудзі
За цябе, наш Сталін!

## НАШАМУ СВЯТУ

Расчыні шырока дзверы,
    Мілая старонка,
Выйдзі стрэнуць свой Кастрычнік
    Песняй гулкай, звонкай!

Свята нашай гадавіны,
    Хоць і ўвосень свята,
Свеціць вечнаю вясною
    Нашым нівам, хатам.

Мы ідзем сабе пад сонцам
    Маладым паходам.
Слава бацькаўшчыне нашай
    І яе народам!



# СЫНЫ

Сыноў бацька сваіх кліча
    На нараду ў хату,
А ўрачыста, як-бы кліча
    На якое свята.

І з павагаю пытае
    Кожнага ў асобку,
Кім з іх кожны быці хоча,
    Якім жыць заробкам.

—Бо, сыны мае,—так кажа,—
    Жывіцё ў краіне,
Чалавечая дзе праца
    Намарна не гіне.

І сыны адказ трымалі
    Перад бацькам родным,
А стараўся з іх быць кожны
    Свайго бацькі годным.



Першы кажа:—Землі буду
Трактарам варочаць,
Каб рунелі, зелянелі,
Аж яснелі вочы.

Каб раслі ў рост чалавека
Жыта і пшаніца,
Каб аж госці к нам з-за свету
Ехалі дзівіцца.

Другі кажа:—На заводзе
Быць хачу даўно я,
Дзе чыгун ракою льецца,
Дзе звініць сталь звонам.



Будаваць буду дзень цэлы
Домны і мартэны,
Медзь і вугаль браць у дзела
Ад шахтаў падземных.



Плаваць я пайду на мора,—
Сказаў гэтак трэці,—
Дзе „Чэлюскін“ горда плаваў,
Дзе пурга, дзе вецер.

Ад халодных да гарачых
Мораў рэйс мой будзе,
Параход мой будзе грозна
Рэзаць хваляў грудзі.

Сын чацверты:—Хачу лётаць
Птушкаю крылатай,
Мерацць неба ў самалёце
Над тваёю хатай.

Арлянём сябе ў сне бачу,
Не знаю спакою...
Хачу быць я, мой ты бацька,
Лётчыкам-героем!



—Байцом буду я чырвоным,—
Пяты кажа гэтак,—
Сцерагчы граніцы-межы
Краіны Советаў.

Каб наш вораг пры нападзе
Сустрэнуў магілу.
Байцом буду, каб з мяне быў
Рад сам Варашылаў.

А сын шосты:—Складаць песні
Буду, колькі змогі,
Пра вялікія падзеі
Сталінскай эпохі.

Як працуем, як знішчаем
Здрадныя напасці,
Як будуем, як ствараем
Казачнае шчасце.



Так сыны адказ трымалі
З гонарам юначым,
Свае выказаці думкі
Не ўмелі іначай.

Большэвік быў іхні бацька,
Пролетарый родам,
Зведаў сушы, зведаў моры,
Бітвы і паходы.

# ВЫПРАЎЛЯЛА МАЦІ СЫНА

Выпраўляла маці сына
З калгаснае хаты
Не на службу у чужыну,
Не к дзяўчыне ў сваты.

Выпраўляла і казала:
— Мой сыночак мілы,
Ужо маеш ты нямала
Розуму і сілы.

Пойдзеш ты у свет і людзі
Хадою адважнай,
Прад табою слацца будзе
Край наш неабсяжны.

Не зазнаеш крутых сцежак—
Сыты і адзеты—
Вартаваць ты будзеш межы
Краіны Советаў.

Не зазнаеш тамка гора,—
Будуць паважаці,
Даглядаць цябе не горай,
Як родная маці.

Не ў салдатах быць пад царам,
Пад кнутом жандарскім,—
Служыць будзеш ты Советам,
Справе пролетарскай.

Выпраўляла маці сына
З калгасных загонаў,
Каб служыў той верна, чынна
Арміі Чырвонай.



# УКРАІНА

Украіна! Табе вораг
Ніякі не страшан,—
Сцяг твой роўны паміж роўных
У Саюзе нашым.

Шлях твой ясны, як пшаніцы
Залацісты колас,
А людзей тваіх працоўных
Звонкі, смелы голас.

Па Дняпру тваім свабодным
У самае мора
Плывуць горда параходы,
Не знаючы гора.

Ты будуеш сабе шчасце
Пад сцягам чырвоным,
Як рэспублікі ўсе нашы,
З поспехам цудоўным.

Хто-ж памкнецца табе здрадзіць,
Зноў капаць магілу,
У Дняпры сваім патопіш
Варожыя сілы.



# ГРУЗІЯ

Грузія, дружная з сонцам краіна,
Як-жа ты сэрца і думкі салодзіш.
Вочы тут бачаць цуды з'яў дзіўных,
Вушы тут чуюць напевы стагоддзяў.

З сонцам гадуе зямля вінаграды,
Побач галіны цытрын, мандарынаў,
Там залатых памаранцаў прысады,
Бурныя рэкі ў квяцістых далінах.

Сокам чырвоным наліты гранаты,
Дружна, бы яблыкі, дрэва абселі,
Шастае лісце пахучай гарбаты,
Лісце іх шоўкам калышацца ў белі.

# МАТЦЫ

Ты гадуй сынка, матуля,
У пялёнкі спавівай,
Калышы, пей — люлі-люлі,
Пей пацІху — баю-бай!

Над калыскай з бегам ночак
Песні роднай не жалей,
Каб, як вырасце сыночак,
Верным вечна ён быў ёй.

Як навучыцца хадзіці,
Маткі мову разумець,
Ты вучы яго любіці,
Усё сваё ў пашане мець.

Ты гадуй сынка, матуля,
У пялёнкі спавівай,
Калышы, пей — люлі-люлі,
Пей паціху — баю-бай!



# АЛЕСЯ

Кукавала зязюля
У зялёным лесе,
Гадавала матуля
Дачушку Алесю.

Гаманіў бор сасновы
Ўвечары і ранкі,
Над калыскай ліповай
Пела калыханкі.

—Спі, засні, мая дзетка,
Птушкі ўжо заснулі!
Спі, засні, мая кветка,
Люлі, люлі, люлі!

Спі, не ведай трывогі!
Надыйдзе часінка,—
На свае ўстанеш ногі,
Мая ты дзяўчынка.

Будзеш кужаль ты прасці,
Будзеш ткаці кросны,
Выглядаць долі, шчасця
Ў маладыя вёсны.

Кукавала зязюля
У зялёным лесе,
Не згадала матуля,
Што выйдзе з Алесі.

Як набралася моцы
Матчына дачушка,
Паляцела да сонца
Пералётнай птушкай.

Паляцела дзяўчына
Самалётам гонкім
Над шчаслівай краінай,
Над роднай старонкай.



Адчыняе вароты
Нябесным маршрутам,
Ці, як ястраб, з высотаў
Скача з парашутам.

І да сонца праз хвілю,
А ўсё вышай, вышай!
Самалётавым крыллем
Воблакі калыша.

Стала маці днём, ночкай
Марыць ля аконца:
Ужо к прасніцы дочка
Не зляціць з-пад сонца.

Кукавала зязюля
У зялёным лесе,
Не згадала матуля,
Што выйдзе з Алесі.

# Я—КАЛГАСНІЦА

Я—калгасніца
Маладая—
Жыву весела
Ані дбаю.

Мае дзетачкі
Позна-рана
І накормлены,
І прыбраны.

Сваю Настачку—
Дзіцё тое—
Нясу ў яслі я
Раніцою.

А Данілачка,
Важным хлопцам,
Рады бегае
На пляцоўцы.



А як выйду я—
Іхня маці—
Ды калгаснае
Жыта жаці,—

Густа сцелюцца
Ўслед снапочкі,
Пяю песенькі
Аж да ночкі.

Супакойна я
Ўжо за дзетак,
Сваіх родненькіх
Малалетак.

Я—калгасніца
Маладая—
Жыву весела
Ані дбаю.

## ЯК Я МОЛАДА БЫЛА...

Як я молада была,
Гаравала многа...
Ад сяла і да сяла
Блукала знямога.

Нехапала той зямлі,
Нехапала ежы;
Ні той скваркі хоць калі,
Ні цэлай адзежы.

Бацька гоніць на начлег,
Маці ў двор да пана;
Ні вясёласці, ні ўцех
Ад долі паганай.

А сягоння, во, мае
І дзеці і ўнукі—
Кожны ўдоваль есць і п'е,
Не ведаюць мукі.

Ці Кастрычнік, ці то Май,—
Гонару набралі,—
Ім ядваб ужо давай,
Не хочуць паркалю.

---

Ядваб—шоўк.

Патэфоны граюць ім,
Радыё іграе;
Не было ў жыцці маім
Гэтакага раю.

Як я молада была,
Бедавала многа...
Ад сяла і да сяла
Блукала знямога.

## ПЕСНЯ

Каб была я перапёлкай,
Каб я волю мела,—
Дзе-б хацела, паляцела,
Дома-б не сядзела.

Ці па ягады ў бор шчыры
Туды, за сялібкі,
Ці ў лес цёмны па арэхі,
Дзе ляшчэўнік гібкі.

Ці ў зялёны луг, дзе рэчка
Ўецца і лялее.
Па каліну па чырвону,
Што там, ў лузе, спее.

# А ЗЯЗЮЛЬКА КУКАВАЛА

Як на свет радзіўся Янка,
Як заплакаў многа—мала,—
Пела маці над калыскай,
А зязюлька кукавала:

Ку-ку, ку-ку, кінь дакуку!
Спі, саколік! Ку-ку, ку-ку!

Як падрос, падняўся Янка,
Як ганяць стаў ў поле стада,—
На жалейцы граў дзень цэлы,
А зязюлька кукавала:

Ку-ку, ку-ку, кінь дакуку!
Пасі статак! Ку-ку, ку-ку!

Як вялікім вырас Янка,
Як стаў сеяць шчыра, дбала,—
За сяўбою пеў аб долі,
А зязюлька кукавала:

Ку-ку, ку-ку, кінь дакуку!
Сей палетак! Ку-ку, ку-ку!

Як ні сеяў пільна Янка,—
Ўсё чагосьці не ставала:
Янка сеяў—людзі жалі,
А зязюлька кукавала:

Ку-ку, ку-ку, кінь дакуку!
Жаці будзеш! Ку-ку, ку-ку!

Як старым-старым стаў Янка,
Як пазбыўся сілы ўдалай,—
Баіў байкі—казкі ўнукам,
А зязюлька кукавала:

Ку-ку, ку-ку! Кінь дакуку!
Годзі баіць! Ку-ку, ку-ку!



Як хавалі людзі Янку!—
Галасілі многа—мала.
—А на што-ж памёр ты, сейбіт!
А зязюлька кукавала:

Ку-ку, ку-ку! Кінь дакуку!
Спі, саколік! Ку-ку, ку-ку!



# ДАРОГІ

Дарогі вы шасейныя,
Шчаслівыя дарогі,
Істужкамі пасляліся
На нашыя разлогі.

Праз поле ураджайнае,
Тарфяныя балоты,
Праз пушчы векавечныя
Ляглі вы пазалотай.

Ніколі вы не дрэмлеце:
Ад ранка і да ранка
Па вас машына коціцца
І конная фурманка.

І пешаходам весела—
Малодшы ён ці старшы;
Байцы Чырвонай Арміі
Ідуць паходным маршам.

Грузавікі з таварамі
Бягуць ва ўсе староны,
З лістамі віншавальнымі
Шнуруюць паштальёны.

Злучылі з гулкім горадам
Спакойныя разлогі,
Дарогі вы шасейныя,
Шчаслівыя дарогі.

З бяспуцця непраходнага,
З калдобін катлавінаў
Ты вышла, ордэнаносная,
На роўны шлях, краіна!

## НА НАШЫМ ПОЛІ

На нашым полі,
Полі калгасным,
Дзянькі праходзяць
Весела, ясна.

Дружна працуем
Мы грамадою,
Знацца не знаем
З горам, з бядою.

Пры нашым ладзе,
Пры калектыўным,
Рукам падмогай
Служаць машыны.

Болей не знаем
Сох на загонах,—
Трактар нам цягне
Плугі, бароны.

Сонейка ўзыйдзе,
Сонейка зайдзе,
Сеем і полем
Шчыра, папраўдзе.

Сеем, збіраем
Спелае збожжа,
Сабе, краіне
Багацце множым.



# ВЯСНА

У вянку з пралесак,
У зялёнай шаце
Ходзе борам—лесам,
Полем, сенажацей.

Сонцу—яснагрэю
Расплятае косы,
Раніцамі сее,
Як брыльянты, росы.

Сцелецца травіцай,
Ветрыкам шапоча,
Коціцца крыніцай,
Рыбкаю плюскоча.

У гайкі заходзіць,
Шапаціць лісткамі,
Гутарку заводзіць
З белкамі, з дзятламі.





# ВЯСНОЙ

Ой, вясна, ой, вясна!
За душу ты мілей!
З табой доля ясна,
З табой жыць весялей!

Ты зялёнай травой
Скрыла чорну зямлю
І прызвала сабой
Усіх к працы, к жыццю.

Гоман птушак—пяюх
Льецца ў вушы твае,
На жалейцы пастух
Галасіста пяе.

# МАЙ

Да нас у госці май прыходзіць,
Як не прыходзіў у вяках,
Спявае песні аб свабодзе
На полі, ў моры, ў рудніках.

Спявае дзецям калыханкі,
Прыгожыць кветкамі сады,
Вядзе сялянаў і сялянкаў
На шлях шчаслівы, малады.

Прыходзіць май зялёны ў госці,
А з падарункамі ідзе,
Уцеху буйнай сыпе горсцю
Святочна ўбранай грамадзе.





# ЛЕТА

Шум стаіць пад лясістай дуброваю,
Быццам рада аб нечым ідзе;
Рэчка, ў прысядзь схаваўшысь альховую,
Бурліць; рыбка плюскоча ў вадзе.

Ў збожжа ўсякае ніва прыбралася—
Хараства там якога няма!
Як зялёны дыван, распласталася;
Шопат нейкі плыве ад жытца.

Колас з коласам гутарку дзіўную
Завялі, бы на хмары злуюць.
Песні жаваранкаў пераліўныя
Замаркоціцца, спаць не даюць.

А лагі, а гумнішчы, аселіцы?
Вось абняў, прытуліўся, ляжы...
Хто з вас, хто не любіці асмеліцца
Ўлетку свет ад мяжы да мяжы!



# ЛЕТАМ

Звоніць поле доляй, воляй,
Звоніць поле ў каласкі.
Ў буйным лузе ззяюць, граюць
Кветкі, мошкі, матылькі.

Рэчка ўецца і смяецца
Да зялёных лоз і вольх,
А ў вадзіцы шыбка рыбка
Мігаціць на паплаўках.

Лес адвечны, бесканечны
Цягне-цягне гоман свой.
Між хвой скачуць птушкі-ўюшкі
І пяюць, пяюць гурмой.

# ЛЕТНЯЯ РАСА

Як брыльянты, рассявае
Ночка летнюю расіцу,
Туманамі спавівае
Луг зялёны над крыніцай.

А як раніца настане,
Блісnumerous сонца загуляюць,
Бо прыходзіць адцвітанне,
Туманы у рэчцы таюць.

Як брыльянты, гінуць росы
На зялёнай сенажаці.
Сонца косы, нашы косы
Не даюць поўдня ім знаці.





# ЖНЯЯ

Як сама царыца
Ў залатой кароне,
Ідзе яна ў вяночку
Паміж спелых гоняў.

З каласкоў вяночак—
Моладасці сведка—
На ёй зіхаціцца,
Як у садзе кветка.

На грудзях шчаслівых
Каптанок ружовы,
У руцэ сярпочак
Зублены, сталёвы.

Каласкі хінуцца
Перад ёй паклонна,
Дзівіцца ігруша
На мяжы зялёнай.

А яна-царыца
Весела, шчасліва
Карануе песняй
Залатое жніва.

Смела ідзе ў сонцы
Ўся сама—як сонца,
Гэта жнейка наша
У нашай старонцы.

# ЖНІВО

Годзе, жытцо маё, годзе, наспелае,
З хмарамі, з бурамі знацца, дружыць;
Годзе шумеці, думкі нясмелыя
Годзе загоны сабой харашыць!

Жнеяў прышла во дружына вялікая,
З песняй за дзела ўзялася сваё,
Серп, як маланка, ўскок бегае, сыкае,
Глуха снапамі кладзецца жытцо.

Сталі ў калючым аржонні з павагаю
Мэтлікі шнурам адзін за адным;
Сэрца забілась надзеі адвагаю:
Ёсць на што глянуць, пацешыцца чым.

# НОВАЯ ВОСЕНЬ

Па-новаму восень палеткі
Абходзіць, глядзіць гаспадаркі..
Пайшлі аддыхаць пад паветкі,
Згуляўшы дажынкі, жніўяркі.

У вырай сабраліся гусі,
І жораў азваўся пад небам...
Плывуць па шляхах Беларусі
Абозы чырвоныя з хлебам.

Асенняе сонца спакойна
Ў прасторах нямых пахаджае...
Ґуляе пад сцягам чырвоным
Калгаснае свята ўраджаю.



# ВОСЕНЬ

З буйных ліп і бяроз
Лісты валяцца,
Між павалаў і лоз
Рассыпаюцца.

Шапацяць, шалясцяць
Залацістыя,
Веткі ў неба глядзяць
Пусталістыя.

Як-жа прыдзе вясна,—
Ўсё адменіцца,
І галінкі ізноў
Зазяленяцца.



# У ВЫРАЙ

Зашумела нудна восень
Шумам лісцяў, шумам сосен,
Даўшы волю хмурам;
Ажно з гоняў Беларусі
Ў вырай вылецелі гусі,
Паплылі ў даль шнурам.

Ой вы, гусі—гудзіцелькі,
Не забудзеце зямелькі,
Дзе дзяцей вадзілі,
Дзе вы месячык страчалі,
Дзе вы зоркі падлічалі,
Плавалі, хадзілі.

Ой вы, гусі—вырайніцы,
Жыць не доўга ў чужаніцы,
Зноў к нам прыплывеце,
Зноў вас будуць сустракаці
Нашы рэчкі, сенажаці,
Наша сонца ў цвеце.



# ЗІМА

Было цёпла. У ваконца
Заглядала ясна сонца.
Аж, ні села і ні пала,
Зіма з снегам загуляла.

Усю нашую старонку
Спавівала, як ў пялёнку.
Няма траўкі, няма кветак,
Пуста гэтак, глуха гэтак.

Сціхла рэчка, як забіта,
Пад шкляною лёду плітай;
Лес пашумам не гамоніць,
Птушак песнямі не звоніць.



# МАРОЗ

Іду я, сняжысты, ўсясільны,
Па сцежках—пуцінах пустых,
І ночкай і днём безупынна
Пільнуюабшараў сваіх.

Палац мой—-лес буйны, вяцвісты—
Ірдзіцца брыльянтамі скрозь,
Мне воўк і мядзведзь у паслугах,
Мне служыць ваверка і лось.

Як пухам, сняжком пасыпаю
І хвою, і елку, і клён;
Хто ў госці ка мне забярэцца,
Тулю тых, галублю іх сон.



# ЗІМОЙ У ЛЕСЕ

І лягла цішыня
У бары за гарой,—
Каб дравінка адна
Хоць кіўнула сабой.

Снег пушаны залёг
На галінах сасон,
І чарнобыль, і мох
Атуліў сабой ён.

Сокат птушак замёр,
Як-бы поўнач была,
Адно свісне тапор,
Ды зазвоніць піла.

Далей—глуш, цішыня
У бары за гарой,—
Каб дравінка адна
Хоць кіўнула сабой.



# ЗІМОВАЯ НОЧ

Каля зоркі зорка  
Ўніз глядзіць, мігціць;  
Каля горкі горка  
Снегам зіхаціць.

На гасцінцы скрогат,  
На прысадах інь.  
Чутны воўчы рогат...  
Глуш, дзе вокам кінь.

Цягнецца каняжка,  
Сані—за канём;  
Янка пад сярмяжкай  
На санях клубком.

Сіверна, марозна,  
Забірае дрож;  
Пырхае трывожна  
Толькі жыў гнядош.

Неба залаціцца,
Пад санямі шум.
Многа Янцы сніцца
Ў гэту ночку дум.

Аб спакойнай вёсцы,
Аб кутку сваім,
Аб вясне, аб сонцы,
Аб жыцці другім.

## РЭЧКА

Між гор, далінаю, за вёску,
Не аглядаючыся, ўзвыш,
Суважна, попрасту, па-свойску
Бяжыш ты, рэчка, і бяжыш.

Падгоніш каменьчык жвіровы,
Травінку водную трасеш,
Чапаеш кораньчык альховы,
Паверху кветачку нясеш.

І лёд зімой табе не шкодзіць—
Ўсё коцішся, а цёплым днём
На бераг выглянеш разводдзем.
Дый потым—зноў сваім слядком.



# ДЗІКАЯ ГРУША

Калышыцца сталетняя,
Шуміць на ўсе староны,
На ёй галінаў тысячы,
Лісткоў на ёй мільёны.

Шпакі на ёй чырыкаюць,
Вавёркі часта скачуць,
І сонца дорыць спекамі,
І хмары дожджам плачуць.

Яна, загартаваная
Сталетняю парою,
Шуміць, заходзе ў гутарку
То з небам, то з зямлёю.



# ДУБ

Распусціўшы вецце
У глухім прыволлі,
Сам адзін расце ён
На далёкім полі.

Думны, кучаравы,
Аб нічым не дбае,
Ці-то стогне бура,
Ці віхор гуляе.

На адным ён месцы
Днюе і начуе,
Многа казак знае,
Многа песень чуе.

Дождж падмыў карэнне,
Ў ім дупло, як хата...
Ён стаіць і дрэмле,—
Грозны, расахаты.

# ПОЛЕ

Люблю цябе, поле,
Вясёлай вясною,
Як ты зарунішся
Ўсякай збажыною.

Люблю цябе летам,
Як красуе ніва,
Як шуміць ад ветру
Радасна, шчасліва.

Люблю цябе, поле,
Восенню прыгожай,
Як напоўніш пуню
Умалотным збожжам.

Люблю тады нават
Цябе, маё поле,
Як над табой жудка
Зімка заскаголе.

Поле маё, поле,
Як-жа ты мне міла!
Як люблю цябе я
З усёй моцы, сілы!



# СОСНЫ

Сосны выносныя,
Гордыя сосны!
Шмат вы ўжо носіце
Сонечных вёснаў.

Вас, супакойныя,
Вецер калыша,
Думкі ўзнімаеце
Шумам і цішай.

*

Тыя-ж на поўначы—
З вёснаў да вёснаў—
У сцюжнай Карэліі
Высяцца сосны.

Тыя-ж на поўдзені,
Над цёплым морам,
Сосны ахуталі
Крымскія горы.

*

Сосны далёкія,
Блізкія сосны!
Сэрцу вы любыя
З вёснаў да вёснаў.

Вас адзінакава
Вецер калыша,
Думкі ўзнімаеце
Шумам і цішай.

## БАЙ

Бегаў бай па сцяне
У чырвоным кафтане.
Байку баіў. Ай, лю-лі!
Жылі пчолкі у вуллі...

Баіць ці не?
—Баіць!

Бегаў бай па сцяне...
Ішла вясна па вясне,
Жылі пчолкі з года ў год,
Бралі ў соты з кветак мёд...

Баіць ці не?
—Баіць!

Бегаў бай па сцяне...
Ніхто пчолак не кране,
Самі мёд збіраюць той,
Самі ласаюць зімой.

Баіць ці не?
—Баіць!

Бегаў бай па сцяне...
У той самай старане
Пустапасам труцень жыў,
Неяк з пчолкамі здружыў...

Баіць ці не?
—Баіць!

Бегаў бай па сцяне...
Ці так добра, ці так не,—
Пчолкі добрымі былі
Трутня ў госці прынялі...

Баіць ці не?
—Баіць!

Бегаў бай па сцяне...
Труцень пальцам не кіўне;
Пчолкі мёд нясуць да сот,
Труцень есць ды есць той мёд.

Баіць ці не?
—Не!



# ЗМЕСТ



---


Рэдактар *Віт. Няхміра*

Тэхн. рэдактар *Карпіновіч*
Карэктар *А. Сапрыко*

АТ 29260 Падпісана да друку 2/XI 45 г. Тыраж 10.000 экз.
Папера 60×84 1/16 вуч.-аўт. арк. 1,8. Др-к. арк. 3 3/4 Зак. № 617

Друкарня імені Сталіна, Мінск, Пушкіна 55

